Пролетарыі ўсіх краін, злучайцеся!

# ГАНДЛЁВЫ БЮЛЕТЭНЬ

НАРКАМУНУТГАНДЛЯ БССР

РЭДАКЦЫЯ І КАНТОРА
г. Менск,
Дом Урада,
левае крыло, 4 паверх,
комн. № 405.
тэл. № 23-287.

№ 23 | Год выдання 1-ы | 13 жніўня 1935 г. | № 23

## У НАРКАМУНУТГАНДЛІ БССР

◆ У змену распараджэння Наркамунутгандля БССР ад 29 чэрвеня 1935 г. устаноўлена аптова-адпускная цана на віку ў размеры 68 р. 50 к. за цэнтнер, рознічная цана—75 к. за кгр.

◆ Пры Наркамунутгандлі БССР арганізована праектнае бюро. Асноўная задача бюро дапамагчы гандлюючым арганізацыям у рэканструкцыі і абсталяванні, архітэктурным афармленні гандлёвай сеткі ў адпаведнасці з ўзросшымі задачамі культурнага савецкага гандля і абслугоўвання спажыўцоў.

◆ За парушэнне палітыкі савецкага гандля, якое выразілася ў аптовай прадажы аўса з дазволу Райгандля, загадам па наркамату Унутранага Гандля абвешчана суровая вымова Слуцкаму Райунутгандлю т. ЕМЕЛЬЯНАВУ і Упаўнаважанаму Бабруйскага Аддзялення Белхарчгандля т. ЭЦІНУ і вымова інспектару Слуцкага Райгандля т. УТКІНУ.

◆ Устаноўленыя пастановай Наркамунутгандля БССР упоўкамзаг па БССР адзіныя рознічныя цэны на бульбу у размеры 35 кап. за кгр. застаўлены у сіле і на далейшы час, уперад.

◆ Загадам па Наркамату Унутранага Гандля БССР абвешчана суровая вымова з папярэджаннем загадчыку Касцюковіцкага Райгандля т. КАВАЛЕВУ за непрадстаўленне справаздачнасці па хлебу за чэрвень і дзве дэкады ліпеня.

Горрайунутгандлі яшчэ раз папярэджаны, што за нядбайныя адносіны да хлебнай справаздачнасці яны будуць прыцягвацца да суровай адказнасці.

◆ Наркамунутгандль БССР зацвердзіў разгорнуты прэйскурант па ўсіх групах тканей на новыя фасоны швейных вырабаў прадпрыемстваў Белшвейтрэста.

◆ Наркамунутгандль БССР задаволіў хадайніцтва ОРС'а Турксіба аб выдзяленні яму 800 тузін венскіх крэслаў выпрацоўкі сістэмы Белкалесаюза.

◆ У спецыяльнай пастанове Наркамунутгандль адзначыў дрэнную работу дзіцячага ўнівермага Менскага Горспажыўсаюза, адсутнічанне патрэбных тавараў дзіцячага асартымента ў магазіне. Наркамунутгандль абавязаў Белкаапсаюз і Менгорспажыўсаюз забяспечыць магазін адпаведным асартыментам тавараў, асабліва для школьнікаў да новага навучальнага года.

З рэзерва Наркамунутгандля ўнівермагу адпушчана дзіцячага скуранога абутка на 5800 руб. Швейзбыту прапанавана адпусціць дзіцячаму ўнівермагу швейных вырабаў на 20.000 руб.

◆ Наркамунутгандль БССР прызнаў неабходным давесці ў 1936 г. сетку магазінаў „Бакалея" у БССР да 10 магазінаў „Гастранома" да 20. Будуць пабудаваны склады для „Гастранома" і „Бакалей" у Менску, Віцебску і Гомелі.

## Белтаварбюро ў барацьбе за якасць тавараў

◆ Галянтарэйная фабрыка імя Куйбышава атрымала ад скурзавода „Краснай отябрь" (г. Калінін) замшы на 26.000 р. У выніку агляду ўся партыя тавараў пераведзена з 1-га ў III-ці гатунак з адпаведным пераразлікам.

◆ У рэзультаце агляда пісьмовых сталоў у колькасці 30 штук выпрацоўкі Мазырскай фабрыкі „Прафінтэрн", атрымачых Менскім Горспажыўсаюзам, зроблена ўцэнка на 15 проц. з прычыны дэфектаў з-за дрэннай упакоўкі.

◆ Сектарам таварных экспертыз Белтаварбюро праверана партыя сярпоў на 3.300р., атрыманая Менскай базай Белкаапсаюза ад арцелі „Кааператар" (УССР). У сувязі з дрэннай апрацоўкай ўся партыя сярпоў уцэнена на 20 проц.—660 руб.

## Ажывіць работу конкурсных камісій

Адбылося пасяджэнне конкурснай камісіі на лепшую кантору і магазін сістэмы Белгандля і Белхарчгандля.

Камісія адзначыла, што за выключэннем Аршанскай, Віцебскай, Гомельскай і Менскай кантор разгортванне работы па конкурсу праходзіць нездавальняюча. Гарадскія конкурсныя камісіі фактычна бяздзейнічаюць. Зусім слаба разгортваюць таксама работу і Гаркомы Саюза ў Магілёве, Полацку, Мазыры, Барысаве, Рэчыцы.

Камісія распрацавала рад канкрэтных мерапрыемстваў па разгортванню конкурса, прапанаваўшы Гаркомам саюза, дырэктарам Белхарчгандля і Белгандля неадкладна забяспечыць разгортванне орг-масавай работы і кіраўніцтва конкурсам.

# АФІЦЫЙНЫ АДДЗЕЛ

## Правілы гандлю плодагароднінай ў рознічнай сетцы

*(Зацверджаны пастановай НКУГ СССР № 559 ад 3. VII—1935 г).*

### I. Снабжэнне рознічнай сеткі плодагароднінай

1. У мэтах забеспячэння бесперабойнага снабжэння рознічнай сеткі плодагароднінай, усе магазіны і палаткі, якія гандлююць бульбай, гароднінай (у тым ліку зелянінай), пладамі і ягадамі,—павінны быць прымацаваны да пэўных плодагародніных, баз (складаў, хавален соўгасаў і т. п.).

2. Усе плодагароднія базы і магазіны (палаткі) абавязаны мець сезонную гародніну ў поўным асартыменце і ў колькасці, якой дастаткова для задавальнення спажывецкага попыта.

3. Магазіны і палаткі, якія гандлююць плодагароднінай, абавязаны загадзя, але не пазней чым за адны суткі даваць базам заяўкі на неабходную ім колькасць і асартымент плодагародніны.

4. Завоз плодагародніны з баз у магазіны (палаткі) праводзіцца па заяўках апошніх і ў адпаведнасці з колькасцю і асартыментам, паказанымі ў заяўках.

5. Дастаўка тавара ў магазіны (палаткі) павінна праводзіцца, як правіла, да пачатку работы магазінаў.

Зеляніна павінна завозіцца ў магазін, як правіла, у ранішнія гадзіны. Неабходна ўнікаць перавозаку зеляніны ў жаркі час дня.

6. Дастаўка тавара ў магазін і яго прыёмка ў часы гандля не павінны парушаць нармальнай работы магазіна па абслугоўванню спажыўцоў.

### II. Перавозка плодагародніны аўтогужтранспартам

7. Перавозка плодагародніны павінна праводзіцца ў тары жорсткай (скрынкі, клеткі, кошыкі, рашоты і т. д.), альбо мягкай (мяшкі і кулі), у залежнасці ад віда плодагародніны.

К безтарнай перавозцы дапускаецца толькі позняя плодагародніна, а іменна: бульба, капуста, буракі, караньплоды абрэзныя і арбузы.

8. Тара, якая прадназначана для затарвання плодагародніны, павінна быць чыстая, сухая, без пастаронніх запахаў. Забараняецца ўжываць для затарвання плодагародніны тару з-падсолі, мінеральных угнаенняў і інш. хімічных прадуктаў, а таксама з-пад другіх тавараў, якія астаўляюць пасля сябе які-небудзь запах.

9. Затарванне плодагародніны павінна праводзіцца ў адпаведнасці з дзейнічаючымі правіламі іх упакоўкі з тым, каб была забяспечана захаванасць затарваемай плодагародніны ад механічных пашкоджанняў і псавання як у час перавозцы, так і хавання ў тары.

Забараняецца занадта плотная ўкладка ў тару зеляніны, а таксама ўкладка плодагародніны вышэй берагоў тары (з верхам).

10. Укладка затаранай плодагародніны на аўтагужавы транспарт павінна праводзіцца такім чынам, каб скрынкі і клеткі знаходзіліся ўнізу, а адкрытыя кошыкі і рашоты—зверху.

Месцы з зелянінай павінны быць укладзены такім чынам, каб ніякага націску на зеляніну ні з якога боку не было.

11. Аўтогужавы транспарт, які прадназначан для сталай перавозкі плодагародніны, павінен быць абсталяван спецыяльнымі скрынямі—фурамі (фургонамі).

Пры перавозцы плодагародніны гужавым транспартам, ён павінен быць абсталяван спецыяльнымі сядзеннямі для возчыкаў. Сядзенне рабочых і возчыкаў на мясцох з плодагароднінай (на мяшках, кулях, кошыках і т. д.)—забараняецца.

12. Для папярэджання перавазімай плодагародніны ад атмасферных ападкаў, уплыву тэмпературы, а таксама ад пылу і ад забруджвання, гародніна павінна быць пакрыта брэзентамі ці іншымі замяняючымі іх пакрываламі—у летні час і спецыяльна падрыхтаванымі ўцяпляючымі пакрываламі (коўдрамі) ў зімовы час.

13. Каб пазбегнуць механічных пашкоджанняў плодагародніны пры яе перавозцы, неабходна захаваць яе ад моцнай траскі і качкі.

14. Не дапускаецца перавозка плодагародніны транспартнымі сродкамі, якія ўжываліся для перавозкі солі, мінеральных угнаенняў і інш. хімічных прадуктаў, а таксама тавараў, якія астаўляюць пасля сябе запах, без папярэдняй старанная ачысткі ўсіх транспартных сродкаў.

### III. Прыёмка плодагародніны

15. Прыёмка плодагародніны рознічнай сеткаю павінна праводзіцца як па колькасці , так і па якасці.

Колькасная і якасная прыёмка плодагародніны праводзіцца:

а) на базе (складзе) пастаўшчыка ў тым выпадку, калі тавар дастаўляецца ў рознічную сетку самімі гандлюючымі арганізацыямі (магазінамі);

б) у самой рознічнай сетцы ў тым выпадку, калі дастаўка тавара ў рознічную сетку праводзіцца базай (пастаўшчыком).

16. Прыёмка плодагародніны павінна праводзіцца самім загадчыкам магазіна ці спецыяльна вылучанай для гэтага асобай, якая адказвае за прыёмку.

17. У мэтах забеспячэння хуткай прыёмкі плодагародніны ў магазіне, павінна быць загадзя падрыхтавана месца, дзе будзе праводзіцца прыёмка і неабходнае для гэтай прыёмкі абсталяванне (вагі, скаты, тара, інструменты для ўскрыцця тары і т. п.).

18. Вага, аб'ём і колькасць прымаемага ў магазіны тавара, а таксама яго асартымент павінны звярацца з данымі, паказанымі ў суправаджальным дакуменце пастаўшчыка, а таксама з той заяўкай магазіна, ў выкананне якой даны тавар паступіў.

У парадку якаснай прыёмкі, паступіўшая ў магазін плодагародніна павінна быць ацэнена з боку ад-

паведнасці яе тым патрабаванням, якія ўстаноўлены на даны тавар стандартамі альбо кандыцыямі.

Тавар, які паступіў ў тары, цэласць якой не парушана, можа быць прынят на выбарку.

Тавар у папсаванай тары павінен быць поўнасцю праверан як па колькасці, так і па якасці.

19. У выпадку выяўлення недобраякаснага тавара, таксама неадпаведнасці паступіўшага тавара колькасці (вазе) і асартыменту, паказанаму ў суправаджальным дакуменце пастаўшчыка, магазінам (палаткай) павінен быць складзен адпаведны акт на прадмет прад'яўлення прэтэнзіі пастаўшчыку.

> Увага: Складанне актаў праводзіцца па форме і ў парадку, паказаным вышэй стаячай гандлюючай арганізацыяй.

20. Пры завозе ў магазін тавара па колькасці і асартыменту, не адпавядаючага заяўцы магазіна (гл. п. 2), магазін мае права адмовіцца ад прыёмкі гэтага тавара, склаўшы аб гэтым акт з падрабязным паказаннем прычын адмаўлення ад прыёмкі.

21. Для папярэджання псавання плодагароднняй тары і ў мэтах павялічэння тэрміна яе скарыстання, ускрыццё тары павінна праводзіцца асцярожна і адпаведнымі інструментамі (тупаносныя нажы і нажніцы, гваздэдэры, кляшчы, кусачкі і т. п).

Уся плодагароднняя тара, якая паступіла ў магазін, павінна захоўвацца ў спецыяльна адведзеным для гэтага месцы.

> Увага: Зваротны продаж парожняй драўлянай тары з-пад плодагародніны праводзіцца ў адпаведнасці з пастановай СНК СССР № 1008 ад 26 мая 1935 г. "Аб парадку продажу і зварота аслабаняемай з-пад тавараў драўлянай тары".

22. Прыняты магазінам тавар павінен быць неадкладна разбіт на часткі, якія ідуць: а) прама за прылавак (у продаж); б) на сартыроўку в) на хаванне.

## IV. Хаванне плодагародніны ў рознічнай сетцы.

23. Падсобныя памяшканні для хавання плодагародніны ў магазіне (падвал, леднік) павінны быць адпаведным чынам абсталяваны як для хавання затаранага тавара (сцелажы, полкі), так і для хавання плодагародніны без тары (лары).

24. Тэмпературныя ўмовы і вільготнасць паветра ў падсобных памяшканнях павінны быць такія, каб яны забяспечвалі найлепшую захаванасць тавараў.

Памяшканні павінны быць безумоўна чыстымі і мець вентыляцыю.

25. Плодагародніна павінна ўкладвацца як у падсобным памяшканні, так і ў гандлёвым зале такім чынам, каб яна не мялася, не псавалася і мела вольны доступ паветра.

26. Фрукты і ягады павінны захоўвацца паасобна ад зеляніны, караньплодаў і клубнеплодаў, а таксама ад салёна-мачонай і марынаванай плодагародніны.

27. Забараняецца змешванне ў адным месцы як для хавання, так і для продажу плодагародніны розных гатункаў і якасці.

Псаваную плодагародніну неабходна неадкладна аддзяляць ад здаровай.

28. Запасы плодагародніны ў магазіне павінны быць устаноўлены, выходзячы з умоў хавання спажывецкага попыта і сумы зварота, умоў транспарта, адлегласці магазіна ад плодагародніх баз і т. п.

## V. Арганізацыя і парадак продажу плодагародніны

29. Гандаль плодагароднінай павінен праводзіцца ў спецыялізаваных магазінах і палатках альбо ў спецыяльных аддзяленнях змешаных прадуктовых магазінаў.

У перыяд сезоннага паступлення гародніны на рынак арганізуецца развозны гандаль плодагароднінай.

30. Рабочыя месцы прадаўцоў павінны быць абсталяваны дапасавана да асаблівасцей асартымента, па паасобных групах плодагародніны.

31. Да аткрыцця магазіна, плодагародніна, якая падлягае продажу, а таксама рабочыя месцы прадаўцоў, касы і ўсё абсталяванне і інструментарый, неабходныя для водпуска тавараў, павінны быць адпаведным чынам падрыхтаваны з тым, каб быў забяспечан бесперашкодны і безперабойны водпуск тавараў спажыўцам.

Папярэдняя падрыхтоўка плодагародніны да продажу павінна заключацца ў распакоўцы тавара, яго пераборцы і рассартыроўцы адборы мятай, марожанай і гнілой (псаванай) гародніны, ачыстка вялых і зялёных лісцяў і т. д.

32. У працэсе продажу плодагародніны прадаўцы абавязаны праводзіць адсартыроўку брака і непоўнацэннай прадукцыі. Продаж спажыўцам недобраякасных тавараў забараняецца; праданы недобраякасны тавар, па патрабаванню спажыўца, належыць неадкладнаму прыёму і замене яго на добраякасны тавар.

33. Пры ўзвешванні і водпуску спажыўцам зеляніны забараняецца класці зямлянiстыя корні на лісьця.

34. Плодагародніна ў гандлёвым зале магазіна павінна быць выстаўлена на віду ў спажыўцоў і павінна быць распалажана на прылаўку, у вітрынах і на полках такім чынам, каб яе было ўдобна аддзяляць і браць для водпуска спажыўцам.

35. Плодагародніна, якая выстаўляецца на прылавак, папярэдне павінна быць складзена ў асобыя латкі, скрыні і кошыкі з нізкімі берагамі. Раскладваць гародніну на прылаўку без тары забараняецца.

36. Водпуск тавара павінен праводзіцца чыстым весам. Батва ў пучковага тавара (у штуках) па патрабаванню пакупніка, павінна ўбірацца.

Салёныя, мачоныя, квашаныя і марынаваныя тавары павінны ўзвешвацца без расолу. Рассол можа быць дабаўлен толькі пасля ўзвешвання па патрабаванню пакупніка.

37. Плады і гародніна, якіх засталіся к канцу дня не рэалізаванымі, павінны быць ўбраны ў леднік ці падвал. Пры адсутнасці апошніх павінны быць прыняты адпаведныя меры да захавання астаўшагася тавара ад псавання. На наступны дзень увесь тавар, які застаўся ад папярэдняга дня, неабходна пераглядзець і выбраць з яго ўсю недобраякасную і непоўнацэнную плодагародніну.

38. На тавары, якія папсаваліся і непоўнацэнны, складаецца адпаведны акт на прадмет спісання альбо ўцэнкі данага тавара.

УВАГА: Спісанне і ўцэнка тавараў праводзіцца магазінам (палаткай) у парадку, паказаным вышэйстаячай гандлюючай арганізацыяй.

39. Свежая гародніна пазнейшай палучкі павінна паступаць у продаж адначасова з раней паступіўшай, але яшчэ не рэалізаванай гароднінай. Затрымліваць як на базах, так і ў магазінах рэалізацыю свежай гародніны пазнейшай палучкі да поўнай рэалізацыі раней атрыманай ці непоўнацэннай (вялай і т. д.) гародніны—забараняецца.

40. Плодагародніна, якая патрабуе хутчэйшай рэалізацыі для папярэджання страты імі сваіх таварных і харчовых якасцей, але якая не можа быць хутка рэалізавана—павінна здавацца ў пераапрацоўку.

41. Пераапрацаваная плодагародніна (салёная, мачоная, квашаная, марынаваная) павінна адпускацца спажыўцам спецыяльнымі інструментамі і прыладамі (шчыпцы, лыжкі, вілкі і т. п.).

42. Ва ўсіх магазінах і палатках, якія гандлююць плодагароднінай, павінны быць вывешаны на відных месцах прэйскуранты цэн на ўсе віды і гатункі наяўнай ў продажы плодагародніны.

На ўсіх таварах, якія знаходзяцца на віду ў спажыўца, павінны быць ярлыкі з паказаннем назвы і цаны данага тавара.

43. У кожным магазіне і палатцы павінна быць аб'ява аб гадзінах гандля данага магазіна (палаткі).

44. У вітрынах магазіна (палаткі) павінны выстаўляцца толькі тыя тавары, якія ёсць у продажу ў даны час.

Вітрыны неабходна штодзённа абнаўляць, змяняючы выстаўленыя ў іх тавары.

Вітрыны па магчымасці павінны быць мастацкі аформлены.

45. Ва ўсіх магазінах, дзе гэта дазваляе плошча гандлёвага залі павінны быць пастаўлены для ўдобства пакупнікоў сталы, лаўкі альбо крэслы.

## VI. Санітарнае ўтрыманне магазіна і абсталяванне

46. Памяшканне плодагародняга магазіна (палаткі) павінна быць чыстым, сухім, добра праветрываемым.

47. Уборка гандлёвага памяшкання (мыццё падлогі, прылаўкаў, абсталявання і т. д.) павінна праводзіцца штодзённа. Падмятанне падлогі вільготным спосабам павінна праводзіцца на працягу ўсяго рабочага дня па меры накаплення смецця і бруда. Пры ўборцы памяшкання павінны быць прыняты меры для папярэджання тавара ад пылу і бруда.

48. Інструментары і вагі, якія скарыстоўваюцца для водпуска спажыўцам плодагародніны, а таксама прылавак павінны ўтрымлівацца ў чыстаце і поўным парадку.

Талеркі вагаў павінны штодзённа працірацца, а механізм вагаў павінен ачышчацца ад пылу і бруда. Смецце і зямля з прылаўка і вагаў павінны ачышчацца пасля кожнага водпуска тавараў у спецыяльную скрыню.

49. Прылаўкі ў плодагародніх магазінах (палатках) павінны быць добра афарбаваны маслянай фарбай альбо пакрыты цыратай, шклом ці мрамарам.

50. Плады і ягады павінны змяшчацца ў шкляныя вітрыны альбо пакрывацца марляй, для захавання іх ад пылу, насякомых і забруджвання.

51. Рабочыя месцы прадаўцоў не павінны загружацца непатрэбнымі таварамі і тарай.

52. У кожным магазіне павінны быць шафы для хавання ў іх адзення прадаўцоў. Хаванне прадаўцамі за прылаўкам сваіх асабістых рэчаў (адзенне, чамаданы, сумкі і т. д.) забараняецца.

53. Усе прадаўцы плодагародніх магазінаў (палатак) павінны быць забяспечаны санспецвопраткай (халаты, курткі, фартукі).

54. Усе прадаўцы плодагародніх магазінаў (палатак), а таксама іншыя работнікі, якія непасрэдна сутыкаюцца з плодагароднінай (пры сартыроўцы, падносцы, укладцы і т. д.) абавязаны штомесячна падвяргацца медычнаму агляду.

Новыя работнікі прымаюцца на работу ў магазіны толькі пасля праходжання медычнага агляда.

55. Для работнікаў магазіна (палаткі) павінны быць умывальнікі, мыла і ручнікі, таксама гатаваная вада.

56. У магазінах павінны быць урны і скрыні з крышкамі для смецця і адкідаў, а таксама плявацельніцы. Урны, скрынкі і плявацельніцы павінны штодзённа ачышчацца.

57. Вітрыны магазінаў павінны ўтрымлівацца ў поўнай чыстаце і парадку.

58. Барацьба з грызунамі і насякомымі ў магазіне павінна праводзіцца стала па меры іх выяўлення.

59. Курыць у гандлёвай залі плодагародніх магазінаў забараняецца. Аб забароне курыць павінна быць аб'яўлена на відным месцы.

60. Гэтыя правілы павінны быць вядомы ўсім работнікам плодагародніх баз і магазінаў (палатак, аддзяленняў).

# Аб парадку гандлю газай

## ПАСТАНОВА

## Народнага Камісарыята Ўнутранага Гандля БССР

31 ліпеня 1935 г. **№ 452** г. Менск.

У выкананне пастановы СНК БССР ад 22 ліпеня 1935 г. Народны Камісарыят Унутранага Гандля БССР пастанаўляе:

1. Адмяніць існуючы парадак водпуска і нарміравання газы па картках.

2. Устанавіць нормы водпуска газы ў адны рукі па г. Менску—3 літра, Гомелю і Віцебску—2 літра, Бабруйску, Магілёву, Барысаву, Добрушы, Оршы, Полацку, Мозыру і Рэчыцы—1,5 літра, а па астатніх раёнах па 1 літру.

3. Прапанаваць пад адказнасць кіраўнікоў гандлюючых арганізацый ў тэрміновым парадку прывесці ў парадак сетку, якая гандлюе газай і прыняць усе захады да забяспячэння своечасовага завоза газы ў магазіны і 100%-ую выбарку вызначаных ім фандоў; асаблівую увагу звярнуць на ўкамплектаванне магазінаў, гандлюючых газай, праверанымі класававытрыманымі работнікамі.

4. Каб пазбегнуць чаргі і ў мэтах арганізацыі барацьбы з спекуляцыйнымі элементамі, абавязаць Горрайунутгандлі, Белкаапсаюз (т. ЛЕВІТА), Белхарчгандаль (т. ЦІМЕНКО), кааперацыйнае ўпраўленне НКУС (т. АЛЬПЯРОВІЧА), ВКУ (т. НАГЕРАВА) і Нач. ОРС'аў забяспечыць арганізацыю развозкі газы, пашырэнне гандлёвай сеткі і павялічыць працягласць гадзін гандля газай у магазінах.

5. Ускласці кантроль за выкананнем гэтай пастановы наркамату на прод. аддзел, а па гарадах і раёнах асабіста на загадчыкаў Гор. Райунутгандляў.

Нам. Наркома Ўнутранага
Гандля БССР **І. Верба.**

---

## Дадатак да парадка правядзення пераучота

### Пастанова Народнага Камісарыята Ўнутранага Гандля Саюза ССР

15 ліпеня 1935 г. **№ 626** г. Масква.

У мэтах устанаўлення адзінага парадка правядзення пераучота тавара, тары і касы ў гандлёвых прадпрыемствах, Народны Камісарыят Унутранага Гандля Саюза ССР пастанаўляе:

1. Забарніць выяўленыя пры пераучоце недахопы (альбо лішкі) пакрываць за кошт лішкаў (альбо недахопаў), якія аказаліся пры папярэдніх ці паследуючых пераучотах.

2. Забараніць у гандлёвых прадпрыемствах, якія маюць аддзяленні (альбо секцыі), на чале якіх стаяць матэрыяльна-адказныя загадчыкі залічваць недахоп (альбо лішкі) па аднаму аддзяленню (секцыі) лішкамі (альбо недахопамі) па другому аддзяленню (альбо секцыі).

3. У тых выпадках, калі матэрыяльна-адказная асоба выявіць пасля пераучота, што недахопы (альбо лішкі) былі выкліканы яўнай памылкай ў назве тавараў (альбо тары), выпадковым пропускам якога-небудзь тавара (альбо тары), арыфметычным пралікам і т. п., матэрыяльна-адказная асоба мае права не пазней 3-х дзён з моманту ўстанаўлення вынікаў пераучота, падаць матывіраваную заяву аб вытвару праверкі альбо паўторнага пераучота ў мэтах выпраўлення дапушчаных неправільнасцей.

Кіраўнік арганізацыі, у склад якой уваходзіць гандлёвае прадпрыемства, назначае дакладную праверку выкладзеных у заяве фактаў і ў выпадку падцвярджэння—робіць распараджэнне аб выпраўленні адзначаных разыходжанняў альбо ж аб паўторным пераучоце.

Нам. Наркамунутгандля Саюза ССР **Балоцін.**

---

# Парадак складання актаў і спісанняў пры псаванні тавараў

## ПАСТАНОВА

### Народнага Камісарыята Ўнутранага Гандля СССР

15 ліпеня 1935 г. **№ 628** г. Масква

У мэтах барацьбы з самавольнымі спісаннямі па бою, лому, псаванню тавараў (альбо тары) і па завесу тары, якія прыкрываюць безгаспадарчасць у рабоце гандлёвага прадпрыемства ці прамыя хішчэнні і растраты, а таксама агражджэння работнікаў гандлёвых прадпрыемстваў ад неправільных за іх рахунак спісанняў, Народны Камісарыят Унутранага Гандля Саюза ССР пастанаўляе:

1. Устанавіць адзіны парадак складання актаў і спісанняў па бою, лому, псаванню тавараў (альбо тары) і па завесу тары, згодна прыкладаемых „Правіл аб парадку складання актаў і аб парадку спісанняў па бою, лому, псаванню тавараў (альбо тары) і па завесу тары ў рознічных гандлёвых прадпрыемствах".

2. Абавязаць кіраўнікоў арганізацый, у склад якіх уваходзяць рознічныя гандлёвыя прадпрыемствы, праводзіць з асаблівай пільнасцю адбор тых работнікаў, якія, згодна п. 3 правіл будуць упаўнаважаны для ўдзела ад іх імя ў складанні актаў (даверанных).

Нам. Народнага Камісара Ўнутранага
Гандля СССР **Балоцін**

## ПРАВІЛЫ

### аб парадку складання актаў і аб парадку спісанняў па бою, лому і псаванню тавараў (альбо тары) і па завесу тары ў рознічных гандлёвых прадпрыемствах

1. Гэтыя правілы распаўсюджваюцца на ўсе дзяржаўныя і кааперацыйныя рознічныя гандлёвыя прадпрыемствы (магазіны, палаткі, ларкі).

2. Усе выпадкі боя, лома і псавання тавара (альбо тары), якія адбыліся ў час хавання і водпуска тавара ў гандлёвым прадпрыемстве, а таксама завес тары павінны афармляцца актамі, складзенымі ў паказаным ніжэй парадку.

> Увага: Акты па бою, лому і псаванню тавара, якія адбыліся пры прыемцы тавара ад пастаўшчыка складаюцца ў адпаведнасці з дагаварамі, якія заключаны з пастаўшчыкамі і інструкцыяй Дзяржарбітража пры СНК СССР ад 2 студзеня 1935 г. аб парадку і тэрмінах прад'яўлення прэтэнзій пры пастаўках тавараў належнай якасці аднымі дзяржаўнымі кааперацыйнымі і грамадскімі арганізацыямі другім.

3. Для абавязковага ўдзела ў складанні ўсіх актаў, паказаных у п. 2 гэтых правіл, кіраўнік арганізацыі, у склад якой уваходзіць гандлёвае прадпрыемства, асабіста вызначае спецыяльных, зусім правераных работнікаў (даверанных), якія выступаюць пры складанні актаў ад імя кіраўніка і якія маюць для гэтага асобую даверанасць, якая падпісана кіраўніком арганізацыі.

4. Акрамя паказанага у п. 3 даверанага арганізацыі, у склад якой уваходзіць гандлёвае прадпрыемства, у складанні актаў абавязкова ўдзельнічаюць:

а) па бою, лому і псаванню—матэрыяльна-адказная асоба і прадстаўнік грамадскага кантроля (прафсаюз. брыгада масавага кантроля, крамная камісія і. т. п.).

Увага: Для ўдзела ў складанні актаў на харчовыя тавары, якія папсаваны і не могуць быць пераданы у пераапрацоўку, альбо якія зусім нягодны і падлягаюць знішчэнню,—звыш таго абавязкова запрашаецца прадстаўнік санітарнай службы альбо санітарнага нагляда.

б) па завесу тары—матэрыяльна-адказная асоба, прадстаўнік грамадскага кантроля і асоба, якая праводзіла пераважванне тары.

Увага: Для складання акта па завесу тары, акрамя таго выклікаюцца асобы, выклік якіх прадугледжан заключаным з пастаўшчыком дагаворам, а ў астатніх выпадках—прадстаўнік па назначэнню кожны раз мясцовага органа Наркамунутгандля.

5. Акты ва ўсіх прадугледжаных вышэй выпадках складаюцца ў адпаведнасці з прыкладзенымі да гэтых правіл прыкладнымі актамі ў двух экземплярах (праз капірку), падпісваюцца ўсімі ўдзейнічаючымі ў іх складанні асобамі (з паказаннем іх службовага становішча, ініцыялаў, прозвішч і адраса) і маюць значэнне бяспрэчнага дакумента для спісання боя, лома, псавання тавараў (альбо тары) і завеса тары.

6. Адзін з экземпляраў акта застаецца ў гандлёвым прадпрыемстве (у бухгальтэрыі), другі экземпляр акта пасылаецца кіраўніку арганізацыі, у склад якой уваходзіць гандлёвае прадпрыемства разам з службовай запіскай даверанага арганізацыі, які ўдзельнічаў у складанні акта, у якой павінна быць яго заключэнне па пытанню аб тым, каго ён лічыць вінаватым ў адбыўшымся ломе, бою, альбо псаванні тавара (ці тары).

7. Кіраўнік арганізацыі, у склад якой уваходзіць гандлёвае прадпрыемства, альбо па яго паўнамоцтву яго намеснік ці загадчык гандлёвым аддзелам, абавязаны не пазней 5 дзён па атрыманні другога экземпляра акта (п. 6) разглядзець кожны акт і ўстанавіць за чый кошт павінна быць праведзена спісанне лома, боя, псавання тавара (тары) альбо завеса тары (пастаўшчыка, у ўбытак гандлёвага прадпрыемства, матэрыяльна-адказнай асобы, вінаватай асобы), а таксама прыняць усе неабходныя меры, якія выцякаюць з разгледжаных імі актаў у адносінах кіраўніка ці другіх работнікаў гандлёвага прадпрыемства.

8. Бухгальтэрыя гандлёвага прадпрыемства рэгіструе атрыманы акт у асобнай кнізе рэгістрацыі актаў, з паказаннем наступных даных: а) парадкавы нумар акта, б) дата складання акта, в) на што складзен акт (лом, бой, псаванне, завес тары), г) сума акта, д) дата адсылкі другога экземпляра акта кіраўніку арганізацыі і е) за чый рахунак праведзна спісанне боя лома, псаванне ці завеса тары.

Увага: Кніга для рэгістрацыі актаў павінна быць пранумаравана па старонках, прашнуравана, падпісана і прапячатана пячаткаю арганізацыі, у склад якой уваходзіць гандлёвае прадпрыемства.

9. Пасля занясення паказаных вышэй запісаў у кнігу рэгістрацыі актаў, бухгальтэрыя гандлёвага прадпрыемства пагашае акт адпаведным надпісам (альбо штампам): па гэтаму акту спісана (сума) за рахунак ............ праводкі зроблена (дата) бухгальтар (подпіс).

10. Даверены арганізацыі, у склад якой уваходзіць гандлёвае прадпрыемства, абавязан з'явіцца па выкліку гандлёвай арганізацыі для складання актаў: па псаванню хуткапсуючыхся тавараў—не пазней 24-х гадзін, а ва ўсіх астатных выпадках—не пазней 3-х дзён.

11. Матэрыяльна-адказная асоба, удзельнічаючы у складанні акта, не можа быць, аднак, дапушчана ні да непасрэднага пераліку тавара, яго ўзвешванню і ўзвешванню тары, ні да напісання самаго акта, а толькі прадстаўляе адпаведны тавар (альбо тару) і неабходныя дакументы, дае тлумачэнні, падпісвае акт і можа рабіць на ім, калі палічыць гэта неабходным, свае агаворкі і дадаткі.

Нам. Наркамунутгандля БССР **Балоцін.**

Форма № 1

# АКТ №............

(па бою і лому тавараў)

„.........“............193 г. Мы, ніжэйпадпісаўшыяся ............................................................ склалі гэты акт у тым, што „.........“............193 г. у магазіне №............ выяўлен бой (лом) тавара ............ паступіўшага ад ............ па накладной „.........“............193 г. за №............

Пры складанні акта аказалася:

| №№ п/п | Назва тавара | Колькасць | | Цана | Сума | Пераацэнка | | Розніца паміж ранейш. і новай цаной |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Лікам | Вагой | | | Новая цана | Сума | Сума |
| | | | | | | | | |

Заключэнне камісіі: (прычына боя, лома)............................................................

бой і лом нягодны да скарыстання знішчан „.........“............193 г.

у прысутнасці ............................................ Акт зацвердзіць у суме Руб............

Подпісі:

Спісаць за рахунак ............................ Подпіс кіраўніка вышэйстаячай гандлёвай арганізацыі:

Форма № 2

# АКТ №

(па псаванню тавараў)

„........“ ................ 193.... г. Мы ніжэйпадпісаўшыяся склалі гэты акт у тым, што намі на аснове распараджэння ................................................................

................................................................ ад „........“ ................ 193 г. за № ................ праведзен агляд папсаваўшагася тавара, які знаходзіцца ў магазіне № ................

Пры складанні акта аказалася:

| №№ п/п | Назва тавара | Ад каго і калі паступіў у магазін тавар | | Колькасць | | | Цана | Сума | Пераацэнка | | Розніца паміж ранейшай і новай цаной |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Пастаўшчык | Дата і № накл. | Лікам | Вага: Бруто | Вага: Нето | | | Новая цана | Сума | Сума |
| | | | | | | | | | | | |

Заключэнне камісіі:

а) прычына псавання ................................................................

б) скарыстанне тавара (падлягае знішчэнню, падлягае пераапрацоўцы ці скарыстанню на тэхнічныя патрэбы). Увесь нягодны к скарыстанню тавар знішчан у прысутнасці ................................................................ „........“ ................ 193 г.

Подпісі:

Спісаць за рахунак ................................................................

Кіраўнік вышэйстаячай гандлёвай арганізацыі:

Форма № 3

# АКТ №

(па завесу тары)

„........“ 193 г. Мы ніжэйпадпісаўшыяся ................................................................ склалі гэты акт у тым, што гэтага чысла правялі ўзвешванне тары з пад ................................ пры ўдзеле ................................

Пры ўзвешванні аказалася:

| №№ п/ч | Від тары (бочкі, скрыні, мяхі і т. д). | Назва затаранага тавара | Дата атрым. тавара магазінам | Па накладной і трафарэту | | | | | | Фактычная вага тары | Падлягае спісанню | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | Дата і № накладной | Бруто | Нето | Тара | | | | Вага | Цана адзінкі тавара | Агульная сума |
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 |
| | | | | | | | | | | | | | |

УВАГА: Графы 9 і 10 запаўняюцца пры наяўнасці асобай скідкі на тару.
У гэтым выпадку: графа 9 запаўняецца ў наступнай рэдакцыі: „Скідка на тару“.
Графа 10 запаўняецца ў наступнай рэдакцыі: „Вага тары за скідкай“.

Заключэнне камісіі ................................................................

Акт зацвержан у суме руб. ................................................................

*Подпісі:*

Спісаць за рахунак ................................................................

Подпіс кіраўніка вышэйстаячай гандлёвай арганізацыі:

# Ц Э Н Ы



## Новыя паніжаныя цэны на масла і маргарын

### ПАСТАНОВА

### Народнага Камісарыята Унутранага Гандля БССР

29 ліпеня 1935 г. **№ 445** г. Менск.

На падставе тэлеграмы Саюзнаркамунутгандля № 730/6, Народны Камісарыят Унутранага Гандля БССР пастанаўляе:

1. Устанавіць новую паніжаную цану на масла жывотнае, маргарын, маргагусалін і масла-маргарын, рэалізуемае ў парадку адкрытай прадажы (у руб. і кап. за кгр.).

| | Вышэйшы гатунак | Першы гатунак |
|---|---|---|
| а) сладка-слівачнае | 24 | 21 |
| б) кісла-слівачнае | 22 | 19 |
| в) таплёнае | 23 | 20 |
| г) маргарын | — | 12 |
| д) маргогусалін | — | 14—50 |
| е) масла-маргарын | — | 14—50 |

2. Зняццё астаткаў масла жывотнага і маргарына ў гандлёвай сеці і на складах правесці 31 ліпеня 1935 года. Акты завяраюцца загадчыкам магазіна і прадстаўнікам гандлюючай арганізацыі.

3. Розніца ад пераацэнкі астаткаў адносіцца за рахунак дзяржбюджэта.

4. Устаноўленыя паніжаныя цэны уводзяцца з 1 жніўня 1935.

Нам. Наркамунутгандля БССР **І. Верба.**

## Аптова-рознічныя цэны на перапрацаваную гародніну

### Пастанова Збытавога Канвенцбюро Наркамунутгандля БССР.

3 жніўня 1935 г. **№ 32.** г. Менск.

1. Устанавіць аптова-адпускныя цэны для 11 гарадоў БССР франка квасільны пункт:

Капуста квашан.—260 руб. тона, гуркі салёныя—325 руб. тона, памідоры салёныя—440 руб. тона, яблакі мачоныя—1600 руб. тона

Для астатніх раёнаў БССР устанавіць аптова-адпускныя цэны: капуста квашан. — 240 руб. тона, гуркі салёныя — 305 руб. тона, памідоры салёныя—420 руб. тона, яблакі мачоныя—1300 руб. тона.

Каштоўнасць тары, згодна прэйскуранта за рахунак пакупніка.

Устанавіць максімальныя гранічныя рознічныя прадажныя цэны для 11 гарадоў БССР на перапрацаваную гародніну ўраджая 1935 года.: капуста квашаная—40 кап. кгр., гуркі салёныя—66 кап. кгр., памідоры салёныя — 76 кап. кгр., яблакі мачоныя — 2 руб. 20 кап. кгр.

Для астатніх раёнаў БССР устанавіць наступныя рознічныя цэны: капуста квашаная—35 кап. кгр., гуркі салёныя — 62 кап. кгр., памідоры салёныя — 70 кап. кгр., яблакі квашаныя — 2 руб. кгр.

Указаныя цэны ўстаноўлены на прадукцыю 1-га гатунка; на прадукцыю 2-га гатунка з паказаных цэн як аптовых, так і рознічных робіцца скідка ў размеры 30 проц.

Нам. старшыні Канвенцбюро Наркамунутгандля БССР **І. Верба.**




Выданне Наркамунутгандля БССР—Дом Урада, 4-й паверх, пак. 405, тэл. 23-287.

Адк. рэдактар І. І. Верба. ЧВА адк. сакратара рэдакцыі С. Лур'е

Школа ФЗВ друкарні ім. Сталіна. Зак. 863. Тыраж 750 экз. Галоўлітбел № 2902.